# Рабочы Бабруйска

№ 16 (57) 10 – 16 мая 2001г. Наклад 299 ас. Паштовы адрас: 213807, Бабруйск, а/с 25. Рэдактар Ігар ХОДЗЬКА.

ПЕРШАМАЙСКІ РОЗГАЛАС

## Зубры вярнулі сэнс святу

Традыцыйнае для нашага горада першамайскае свята з чырвона-зялёнымі сцяжкамі, партрэтамі Лукашэнкі і не зразумелымі для нармальнага чалавека лозунгамі было ўрэшце сарвана. Нешматлікія калоны працоўных, выгнаныя пад прымусам на плошчу Леніна, як заўсёды маўкліва сумавалі ў чаканні "сапраўднага свята" на зялёнай траве пад дрэвам з бутэлькай гарэлкі і пластыкавым стаканчыкам. Але агульны настрой паднялі маладыя хлопцы, якія прапанавалі працоўным ды іх кіраўніцтву, замест пустых дзяжурных прамоў, спецвыпуск газеты "Наша Свобода", у якім надрукавана заключэнне ўрача-псіхіятара Дз. Шчыгельскага накont псіхічнага захворвання аднэй вядомай асобы. З самага пачатку афіцыйны мітынг ператвараўся ва ўсеагульнае абмеркаванне праблем здароўя гэтай асобы.

Нават афіцыйныя выступоўцы заўважылі, што прымусова прыгнаныя слухачы абмяркоўваюць нешта больш цікавае, чым той набор слоў, які вылятаў з дрэннай гукаўзмацняльнай апаратуры. Апагеем першамайскага свята ў Бабруйску стала з'яўленне над натоўпам улётак, у якіх ішла гаворка аб знікненні ў нашай краіне вядомых людзей і праблемах нашага штодзённага жыцця. Не чакаючы чарговых сюрпрызаў, арганізатары мітынгу вымушаны былі спыніць афіцыйную частку і распачаць канцэрт мастацкай самадзейнасці. Першамайскі мітынг 2001 года прайшоў за рэкордна кароткія 23 хвіліны.

Прыемна, што ў самым пачатку XXI стагоддзя святу першамая ў нашым горадзе быў вернуты першапачатковы сэнс. Прыемна ўдвая, што гэта зрабілі актывісты нядаўна народжанага руху "Зубр". Значыць, ёсць надзея, што здаровы сэнс вернецца да ўсіх нас і наступны першамай стане сапраўдным святам салідарнасці ўсіх працоўных, а не прымусовым актам падтрымкі канаючага аўтарытарнага рэжыму.

**Алесь ЧЫГІР.**



## Святкуем... Што і як?

***Прыйшоў да нас май, зялёны і вясёлы. Заквітнелі сады белымі кветкамі, а штодзённік заквітнеў святочнымі датамі, першая з якіх – свята працоўных.***

У гэтым годзе на майскія дэманстрацыі надта не гналі, і таму людзі мелі магчымасць выбару: ці адзначаць свята з рыдлёўкаю на лецішчы, ці ўліцца ў прывабна апрануты натоўп, што віраваў на вуліцах Бабруйска.

На бульбу я не патрапіла, прымкнула да іншае альтэрнатыўнае плыні: вырашыла, як сапраўдная працоўная, адзначыць дзень салідарнасці ў яднанні з бабруйчанамі, якія хацелі свята.

У гэты майскі поўдзень вуліцы поўніліся моладдзю, што піла піва і шукала месца, дзе б можна было патанчыць. Гэтым месцам стаў гарадскі парк культуры і адпачынку, у якім перад публікай на збудаваным памосце самадзейныя калектывы шчодра дзяліліся сваімі здабыткамі: калектыў "Шына-най" – песнямі, дзіцячы танец-гурт "Кузня" – танцамі, калектыў ДК "Фандак" – фольк-спевамі (фольк-спевы чамусьці энтузіязму ў прысутных не выклікалі). Моладзь танчыла, дарослых на гэтым святе працы амаль не было, і адзіным напамінам пра дзяржаўнасць свята быў сучасны беларускі сцяг. Ён целяпаўся ў руцэ хлопца, што быў на добрым падпітку. У другой руцэ сцяганосца была дзяўчына.

Як заўсёды, непрыемна здзіўляла колькасць п'яных – і, дарэчы, няпоўнагадовых п'яных. Чамусьці паміж святам і гарэлкай у Бабруйску ставяць знак роўнасці.

Вяртаючыся дадому з гэтага святкавання, я задумалася пра тое, што 1 мая зрабіла з Бабруйскам.

Яго, як заўсёды на вялікіх фэстах, забрудзілі. Наступнай раніцай а шостай гадзіне, калі народ цягнуўся на працу, вецер гарэзліва перакотваў шматлікія пластыкавыя кубкі на газонах плошчы імя Леніна. (Вось было працы камунальнікам!)

А свята? Не, я думаю, свята не атрымалася. Вельмі крыўдна, што і наступнымі святочнымі днямі мы зноў не ўбачым Свята з вялікай літары. Свята еднасці і моцы народа.

**Надзея КОКАШ.**

## Митинг закрыт. Все на дачу!

***Вот уже второй раз в Бобруйске вместо демонстрации представителей трудящихся коллективов города проходит митинг все тех же представителей.***

На площадь я прибыла ровно к началу, т.е. к моменту, когда колонна с корзинами цветов "вышла из народа" и направилась к памятнику социал-демократу Ульянову, в обиходе - Ленину (он же вождь мирового пролетариата).



По сравнению с 7 ноября народу собралось побольше. Это понятно: количество демонстрирующих или митингующих всегда зависело от погоды.

Над головами тружеников Первомайского района сиротливо маячили 2 портрета А.Г. Лукашенко, в то время как ряды Ленинского района украшали 28 портретов первого президента РБ. Объяснения этому феномену я не нашла.

Открывая митинг, мэр Бобруйска М.Г.Бондаренко выразил уверенность в том, что наш народ успешно справится со всеми негативными явлениями и проявлениями.

Женщина – профсоюзный лидер объяснила собравшимся, что сегодня мировой пролетариат отмечает свой праздник солидарности. Мне стало немного обидно за интеллигенцию, к которой я себя отношу. Потом решила, что по классификации Остапа Бендера можно отнести себя к "пролетариям умственного труда", и успокоилась.

Из выступлений ветерана и бэпээсэмочки ничего нового узнать не удалось. Мешало эхо. Да впрочем, я не сильно и прислушивалась.

За трибуной шли обычные разговоры. Главный криминалист города Иван Заблоцкий сетовал на то, что на народных гуляньях царит культ еды и выпивки. Генеральный директор "Белшины" Дмитрий Сивицкий согласно кивал головой. Два ветерана в медалях вспоминали, как было хорошо организовано при коммунистах. На мою реплику: "Просто вы тогда молодые были!" – один из них сурово отрезал: "Как вы теперь научились все хорошо объяснять! А при коммунистах нас везде приглашали!".

Выступления были столь краткими, что, когда объявили митинг закрытым, народ не спешил расходиться. Чего-то ждали еще. Прошел с бравурным маршем одинокий военный оркестр.

Над толпой взлетели в воздух листовки. За трибуной без интереса заметили : "Смотрите, листовки бросили...".

Листовки мигом расхватали. Я подняла последнюю, кем-то скомканную. На ней был логотип "ЗУБР". Говорили, что задержали какого-то парнишку.

Люди стали расходиться, продвигаясь в сторону шашлыков.

А Михаил Григорьевич Бондаренко уехал на дачу.

**Людмила РОДИКОВА.**

БАБРУЙСКІ ТЫДЗЕНЬ...

## ... паводле Віктара Качана

Ну вось, нарэшце, і пацяплела. На двары сапраўдная вясна, цёплае сонейка прагрэла паветра і глебу... Гараджане зноў штурмам бяруць прыгарадныя аўтобусы і дызелі – прыйшла чарговая пара рыхтавацца да сяўбы, а сёе-тое ўжо і садзіць. І хоць уже шматкроць імі ж падлічана, што прыбытку ад тых агародаў "кот наплакаў", а колькі трэба пакласці здароўя! І колькі магчымасцяў застацца без ураджаю з-за дрэннага надвор'я ці "руплівасці" злодзеяў!

Дэмакратычная грамадскасць 26-га праводзіла чарговую акцыю. На гэты раз прымеркаваную да 15-годдзя Чарнобыльскай катастрофы. Удзельнікамі жалобнага мерапрыемства ў асноўным стала моладзь 16-18-гадовага ўзросту. Дарослыя дзядзі і цёці, прэтэндуючыя на элітную ролю палітычных і грамадскіх лідэраў, узялі за правіла ігнараваць усе палітычныя і беларускамоўныя культурніцкія акцыі, што праводзяцца ў горадзе. Адны з іх захоплены пражэктамі атрымання віду на жыхарства ў іншай, больш перспектыўнай краіне. Другія – загадзя аддалі прэзідэнцкі партфель А.Г. Трэція – толькі і робяць, што займаюцца крытыкай таго, што робяць іншыя, самі тым часам нічога не робячы. Такім чынам, ініцыятыва трывала перайшла ў рукі моладзі. Як след, у спісе затрыманых і пакараных у апошні час фігуруюць адны вучні школ ды навучэнцы тэхнікумаў. Дрэвы пасадзілі – моладзь зрабіла. Магілкі прыбралі – зноў папрацавала моладзь. Улёткі, графіці, налепкі, арганізацыя хатняй беларускамоўнай бібліятэкі, распаўсюджванне аўдыё, відэа (зноў жа на роднай мове) – вось далёка не поўны пералік зробленага актыўнымі падлеткамі. Ці не цынічна перакладаюць спадары дарослыя ўвесь цяжар грамадскай і палітычнай працы на кволыя плечы нашых дзяцей?

Будзённа прайшло свята Першамая. Улады абмежаваліся мітынгам ды канцэртам мастацкай самадзейнасці. Было шмат міліцыі. Мабыць, баяліся паўтарэння мінулагодняга здарэння, калі ўжо былому мэру прадстаўнікі мясцовай апазіцыі спрабавалі ўручыць на плакатах шэраг патрабаванняў сацыяльнага зместу. А той разгубіўся і парваў плакаты на шматкі.

На гэты раз абышлося. Супрацоўнікі праваапарадку захоўвалі добры настрой. Нават жартавалі, падкрадаючыся адзін да аднаго і гучна вымаўляючы: "Бэ-нэ-эф!". Не жыццё, а суцэльны цырк!

## Зялёны горад



***У папярэднім "Рабочым" мы напісалі пра цікавую акцыю, наладжаную Маладымі Сацыял-Дэмакратамі, – пасадку дрэваў у 6-ым мікрараёне. Але мы не раслічылі імпэту ды працавітасці МСД і абмежавалі пасадку толькі 10-ю саджанцамі. Насамрэч, зроблена было значна больш. Перапрашаем і зычым новых вышынь.***

26 красавіка споўнілася 15 год з дня аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Трэба помніць пра гэта, пра ахвяры трагедыі, бо непрыемныя наступствы яшчэ доўга будуць пра сябе нагадваць. Маладыя Сацыял-Дэмакраты разам з Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Партыяй слушна палічылі, што патрэбна неяк змагацца за нашу экалогію.

І таму 27 красавіка сябраў МСД і БСДП (НГ) можна было заўважыць з вёдрамі і рыдлёўкамі ў руках. Уздоўж вуліцы Батава, што ў 6-м мікрараёне, было пасаджана 28 дрэў і некалькі кустарнікаў (вялікі дзякуй станцыі юных натуралістаў). Год, мабыць, праз 30 людзі з задавальненнем будуць гуляць па алеі МСД і БСДП (НГ) і добрым словам іх успомніць. Але тое не абавязкова, бо рабілася справа з іншай мэтай. Юнакі і дзяўчаты вераць, што вырашэнне вялікіх праблем патрэба пачынаць з маленькага. Калі ўсе пойдуць гэтым шляхам, жыццё сапраўды стане лепшым. Далучайцеся!

**Лізавета МАКСІМАВА.**



Свои обращения, отклики, пожелания вы можете прислать нам на адрес: 213809, Бобруйск, а/я 25 .

ФУТБОЛ

# «Белшына» на вяршыні

Футбалісты бабруйскай "Белшыны" трэці тур чэмпіянату краіны правялі 28 красавіка ў Рэчыцы з мясцовым "Ведрычам-97". Намаганнямі Алешчанкі і Балашова (яшчэ адзін гол супернікі забілі самі сабе) буйную перамогу атрымалі бабруйчане. Гэты поспех вывеў іх на чыстае першае месца (9 ачкоў з 9 магчымых). На два ачкі менш у актыве мазырскай "Славіі" і барысаўскага БАТЭ. Аднак, апанентамі шынікаў пакуль былі клубы, якія, мякка кажучы, да фаварытаў не адносяцца. Таму з высновамі спяшацца не будзем. Але і ў першынстве сярод дублюючых складаў наперадзе таксама Бабруйск! А гэта ўжо сведчыць пра надзейнасць тылоў, пра існаванне канкурэнцыі за месца ў аснове!

Віктар КУЛІКОЎ.

# Чвэрцьфінал – чатырма вачыма...

### ... тактычнымі

2 траўня "Белшына" прымала ФК "Гомель". Гэта гульня адбывалася ў межах 1/4 фіналу Кубка краіны. У першай сустрэчы на полі суперніка каманды разышліся з "мірам" – 2:2.

Стартавы склад бабруйчан выглядаў наступным чынам: Шанталосаў, Седнеў, Свердлаў, Клімовіч, Шагойка, І. Градабоеў, Э. Градабоеў, Хрыпач, Гормаш, Трухаў, Алешчанка. Матч пачаўся млява. Гаспадары імітавалі актыўнасць, грэнадзёрскага росту абаронцы ўважліва чакалі непажаданых сюрпрызаў. Мокрая трава спрыяла артабстрэлу здалёк. Хутчэй гэта ўсвядомілі госці. І першы ўдар па варотах вывеў іх наперад. Гол на свой рахунак запісаў жвавы Блізнюк. Астатні час тайма прайшоў ва ўзаемным баданні. Упарта, але без мудрагелістых камбінацый. Толькі перад свісткам на перапынак пас-"цукерка" атрымаўся ў Гормаша. Але мяч пасля шчыльнага ўдара Хрыпача прайшоў побач са штангай.

У другім тайме Вячаслаў Акшаеў правёў планавыя, стаўшыя ўжо традыцыйнымі замены. Замест Шагойкі і Гормаша выйшлі хутканогія Каролік і Балашоў, якія, па задуме коўча, павінны былі абвастрыць гульню па флангах. Забягаючы наперад, скажам, што такая няхітрая тактыка чарговы раз прынесла поспех. Небяспечна пагражалі варотам гасцей Седнеў і Трухаў – але абаронцу крыху не хапіла дакладнасці, а пасля ўдару апошняга мяч зрыкашэціў на вуглавы. У сярэдзіне тайма бабруйчане атрымоўваюць права на штрафны. Магутным ударам Седнеў адчыняе лік. Стомленыя саперніка ледзь стрымліваюць усё нарастаючы напор. І ўрэшце "крэпасць" выкідвае белы сцяг. Пасля ўдару з сярэдняй дыстанцыі Трухаў выводзіць бабруйчан наперад, а напрыканцы гульні тлустую кропку ставіць Балашоў – 3:1! І перспектыва трапіць у Кубак УЕФА стала на крок бліжэйшай.

Віктар КАЧАН.



2.05. «Белшина»-«Гомель». Двое из одной четвертой

### ... и драматургическими

Ответный матч 1/4 финала Кубка Беларуси "Белшина"-"Гомель" ожидался как гвоздевой. И к этому было много посылов. От федерации футбола – ее глава Григорий Федоров. От "Прессбола" – золотое перо Сергей Новиков. От небес – грозовой ливень, несмотря на который стадион заполнился до отказа.

Матч оправдал ожидания. Судьба – драматург поставила сказку о Добре и Зле по классическому сценарию: несправедливый поступок – борьба – возмездие. Вначале Злодей (ФК "Гомель") ногами Близнюка промчался по левому флангу и перебросил мяч через Шанталосова – 0:1. Интрига закрутилась. Весь первый тайм бобруйчане пытались отыграться. Апофеозом безуспешных атак стал удар Хрипача с 4-х метров в никуда. После перерыва резвые шинники таки победили дракона. Седнев со штрафного – 1:1. Трухов – 2:1. И под занавес феерически – 3:1 от Балашова. Добро победило и вышло в полуфинал.

Восторженные зрители не расходились, а длинным коридором проводили игроков в раздевалки. Туда же направились журналисты – на встречу с тренерами. Послематчевая конференция слагалась из трех частей. Первая – непечатная. Состояла из перепалки между главными тренерами: по ходу матча один другого якобы нелитературно оскорбил. Вторая скучная: стандартные рассуждения тренеров о логичности результата. Третья – сенсационная. А. Кузнецов уезжает из Гомеля в московский ЦСКА, о чем он и заявил журналистам. Впрочем, из середняка "Гомеля" не диво уехать. Фартовую в эту весну "Белшину" Александр Кузнецов вряд ли бы оставил.

Д. ДОВГАЛЬ.

ГОРЕ

# Размышления на пепелище

***Ещё несколько дней назад почти в центре посёлка Глуша, возле поворота к местной школе, стоял довольно большой деревянный дом, обложенный кирпичом.***

Когда-то в нём размещался детский сад, а в начале 90-ых, после постройки нового детсада, дом начал потихоньку заселяться жильцами. Всего в нём разместилось 7 довольно просторных квартир. В числе прочих проживали там и 2 семьи беженцев из Армении. Конечно, людям было очень и очень нелегко обустроиться на новом месте: всё-таки помещения предназначались не для жилья, да и дом старый, ещё довоенной постройки. И сил, и средств вложено очень много. Можно сказать, душу вкладывали в каждый уголок.

Соседи жили дружно, вместе отмечали праздники, делили радости и невзгоды, растили детей.

Теперь всё это в прошлом. В ночь с 29-ого на 30-ое апреля случился пожар, превративший жильё 29-ти человек в пепелище. Люди остались на улице – без крова, пищи и одежды.

Но и этим трагические события не ограничились. В огне погибла 13-тилетняя Оля Афанасьева. Особенно возмущало глушанцев то обстоятельство, что её мать Елена вместе со своим сожителем Эдуардом Агафоновым сумели, хоть и полураздетыми, выскочить в окно, спасаясь от огня. А вот ребёнка не уберегли... каждый очевидец трагедии задавал себе вопрос: что же это за жизнь, но о дочери своей както не подумала?

По посёлку покатились слухи – один страшнее другого. Елену Афанасьеву обвиняли в том, будто в её кухне взорвался самогонный аппарат, что и послужило причиной пожара, а сама она...в общем, женщину, которая бросила мужа, легко обвинять во всех смертных грехах, даром, что сама она находится в реанимации.

Конечно, может быть, и легче переносить трагедию, если знаешь, кого винить.

По версии пожарной охраны, причиной возгорания послужил всё-таки не самогонный аппарат, а невыключенная электроплитка. Хотя это, конечно, не снимает вины с хозяйки квартиры.



Думается, не столь важно теперь, что же именно оказалось причиной пожара. Больше ужасает результат: 7 семей, оставшихся без крыши над головой, да могильный холмик над телом ребёнка.

Как рассказывал позже Агафонов, попасть в комнату, где спала девочка, не было никакой возможности: уже горел потолок, плавилась пластмассовая люстра, квартира была полна дыма. Елена, которая пыталась прорваться к дочери, получила сильные ожоги... На что любой слушатель если не говорил, то думал про себя: "Да, но вы-то почему живы? Ведь ребёнок сгорел...". Трудно, практически невозможно оправдаться в такой ситуации.

Со временем погорельцам, наверное, перестанут сниться сполохи пожара, высохнут слёзы об утраченном. Но такой день уже никогда не наступит для Олечки Афанасьевой. Ей не заканчивать школы, не покупать новых нарядов, не встречаться с любимым, не примерять подвенечного платья... С осознанием всего этого ещё очень долго, возможно, придётся жить её матери.

А какая кара может быть страшнее?

И. ВЕРБИЦКАЯ.

ЧИСТЫЙ ГОРОД

# История одного дворика

Уютный, благоустроенный дворик – для Бобруйска большая редкость. Даже возле новых домов через пару месяцев можно наблюдать остатки от спортивных снарядов и разломанные качели. А детский городок – это вообще больная тема...

Жителям наших домов не повезло: двор проходной и "проездной". А любителей собак гораздо больше, чем любителей детей. Это к тому, что так называемые " собачники" изза лени или еще по каким-то непонятным причинам выгуливают своих питомцев посреди двора. А еще больше недовольства этот факт вызывает у мам, которым приходится отстирывать с детской одежды собачьи «сюрпризы».

Застройка нашего квартала началась в 70-х годах. После строительства ряда домов двор представлял из себя пустыню: ни травы, ни деревьев.

Правда, в советские времена строго следили за состоянием детских и спортивных площадок, периодически ремонтируя и обновляя их. Что еще хорошего делалось для двора и его обитателей, так это ежевесенняя высадка саженцев.

Надо сказать, что в 90-х наш двор "зазеленили". Окрепли когда-то посаженные детьми деревья, разрослась трава. Брусья и турник есть, а вот песочницу у ЖЭК-3 выбросить так и не удалось.

Думаю, эти дворовые проблемы знакомы жителям большинства домов нашего города и стары они, как мир.

Но самые большие для нашего двора неприятности исходят от 702 отделения "Беларусбанка". Отчего же, спросите вы? Услуги под носом ведь...

А все потому, что работа банка предусматривает еще и службу инкассации. Так вот, стоянка для машин предусмотрена не была, и в этих целях использовалась территория дворика. Клиенты и работники данного банка тормозили, где хотели, и не соблюдали правил дорожного движения: катались "напрямки".

Управление ЖЭУ – 3 по этому поводу молчало. По весне, видно разбогатев, отделение банка переселилось в более теплое местечко, оставив после себя раскатанный и облысевший двор, где некогда росла трава. Кто же теперь будет заниматься озеленением?

Можно было бы вздохнуть: закончены бесконечные разъезды, пропал смрад от выхлопных газов... Но, говорят, в здание бывшего банка вселяется налоговая инспекция.

Значит, все повторится снова.

И почему мы терпим и "собачников", и "автомобильщиков", и всякие банки? Не уважаем себя самих? Наплевательски относимся к своим детям? Почему городские экологические службы не отслеживают ситуацию?

Д. ЧИГИРЬ.

# Мусорный бунт

Наверное, нескоро ещё решится проблема грязных улиц, площадей, районов нашего города. Конечно, всем нам хочется жить в чистоте и уюте. Насколько нам известно, ответственность за это несут не только простые обыватели, но и лица, непосредственно следящие за чистотой и порядком в городе. Так что же для этого делают городские власти?

Возьмём простой пример того, как загрязняются наши улицы. Всем нам хорошо знакомы остановки общественного транспорта.

В городе Бобруйске 50 постоянно действующих троллейбусных остановок. Из этого немалого числа урну при себе имеет лишь 31(тридцать одна!).

На 15-и из 19-и оставшихся остановках урны расположены в 10-15 метрах от них. Наверняка, каждый из нас попадал в "час пик", когда люди едут на работу или учёбу. В это время на остановке собирается более 30-и человек, половина из которых – курящие.



Что, по-вашему, сделают все эти курящие люди, когда подъедет троллейбус? Побегут выбрасывать окурок в урну или бросят его себе под ноги? Ведь урны установлены в некотором отдалении. А что же тогда делается на остановках, где вообще нет урн.

Да и что вообще можно говорить, если на некоторых остановках не установлены даже навесы.

ЧИП И ДЕЙЛ.

*Продолжается голодовка Елены Захожей, лидера Независимого профсоюза БШК «Белшина». «Рабочы Бабруйска» внимательно следит за развитием событий.*

ДАТЫ

# Да 9 мая

***У панядзелак, 30 красавіка, я, па загаду рэдакцыі, правёў невялічкае апытанне.***

Дзень для гэтага я выбраў вельмі ўдалы: сонца шчыра дарыла свае промні гораду Бабруйску.

Аднак, менавіта з-за гэтага, напэўна, моладзь не вельмі жадала адказваць на мае пытанні. А яны былі вось якія:

1. Ці святкуецца ў вашай сям'і свята Перамогі?
2. Ці захоўваюцца ў вас медалі, гранаты і г.д. ад вашых дзядоў?
3. Што было б лепш: наша перамога ў II Сусветнай вайне ці нямецкая?

Вось якія вынікі я атрымаў. На першае пытанне 36% адказалі, што святкуецца; 45% - адказалі, што толькі ходзяць на парад Перамогі, 19% адказалі, што наогул не святкуюць (да слова – апытана мною было 11 чалавек).

На другое пытанне 4 чалавекі адказалі станоўча, астатнія – адмоўна.

І трэцяе пытанне – усе згадзіліся з тым, што толькі наша Перамога прынесла збаўленне людзям. І гэта не можа не радаваць, таму што ў мінулым годзе мне расказвалі, як адзін 16-гадовы хлопец сказаў, што лепш бы немцы перамаглі: жылі б зараз у Германіі ды ездзілі б на "мэрсэдэсах".

... К канцу дня я, стомлены, але задаволены вынікамі апытання, дабраўся дадому. Хутка 9 мая – дзень Вялікай Перамогі над фашызмам. Скажам жа ў гэты дзень вялікі дзякуй усім тым, хто знішчаў карычневую чуму з твару зямлі!



# Пасля 26 красавіка

Сёння, 26-ага красавіка, у нас была хвіліна памяці, прысвечаная 15-ай гадавіне трагедыі ў Чарнобылі. Усё было б добра, але толькі ўсе разышліся – як і не было ўсяго! Пасыпаліся жартачкі накошт Чарнобыля. Няўжо моладзь не разумее, што з такіх рэчаў жартаваць нельга! Гэта блюзнерства!

Я сам сябе час ад часу лаўлю на думцы, што не ўсведамляю рэальнай пагрозы. Але ж хаця б у гэты дзень трэба сур'ёзна задумацца пра нашу будучыню.

Чарнобыль будзе ўплываць на наша жыццё, жадаем мы гэтага ці не. Радыяцыя – усюды, з ёю жыць яшчэ нашым унукам і праўнукам... Толькі праз многа соцень гадоў зямля ачысціцца ад гэтага бруду..

... 26 красавіка ў Бабруйску прайшла акцыя пад назвай "Жывы ланцуг". Аўтар гэтых радкоў таксама ўдзельнічаў у ёй. Мы прастаялі гадзіну на вуліцы, са свечкамі ў руках – аддалі даніну памяці ўсім ахвярам Чарнобыля.

Людзі рэагавалі па-рознаму: хтосьці з разуменнем адносіўся да нашай акцыі; некаторыя праходзілі з паблажлівай усмешкай. Аднак, большасць абыякава прайшла міма.

Адзін выпадак мяне так уразіў, што я доўга не мог прыйсці ў сябе. Да мяне падышлі дзве жанчыны, і адна з іх спытала:

– А што гэта, хлопчык, сёння за свята, што вы тут стаіце?

Калі я растлумачыў, з якой нагоды мы тут стаім, яна са здзіўленнем паглядзела на мяне.

– Ах, да, – спахапілася другая. – Сёння ж 26 красавіка...

Вось так... Жывем – і не ведаем, што было 15 гадоў таму (хаця ўсе СМІ "трубілі" пра гэта).

Многія жывуць як на бязлюдным востраве: іх турбуюць толькі свае праблемы, а калі справа даходзіць да праблем грамадства – "мая хата з краю"...

І вось гэта абыякавасць – самае страшнае.

Людзі, прачніцеся!

**Дзяніс АДШЭЛЬНІКАЎ.**

ПРОТЕСТ

# Вопреки несправедливости

Со второго мая голодает, выражая таким образом свой протест против неправомерных действий администрации РУП "Белшина", председатель Независимого профсоюза работников Белорусского шинного комбината Елена Захожая.

У нее множество причин для голодовки. Здесь и неправомерно остановленные администрацией "Белшины" переговоры по заключению коллективного договора с Независимым профсоюзом, и отказ в выдаче справки о наличии юридического адреса у профсоюзной организации (хотя организация имеет его на законных основаниях), и попытка администрации взломать дверь кабинета, переданного профсоюзу в безвозмездное пользование, и игнорирование генеральным директором Д.Сивицким просьб Захожей о личном приеме...

Последней каплей, переполнившей чашу терпения, стал отказ работнику БШК Алейникову в выдаче ссуды на строительство жилья по причине его членства в Независимом профсоюзе. И это при том, что Алейников более 15 лет отработал на "Белшине".

2 мая Елена Захожая в установленном порядке уведомила администрацию "Белшины" о голодовке, подав официальное заявление на имя гендиректора. Никакой ответной реакции до сих пор не последовало.

Как следует из заявления Е.Захожей, администрация "Белшины" фактически запретила организацию и уже более двух лет ведет деятельность по ее уничтожению.

Елена Захожая полна решимости продолжать голодовку до удовлетворения своих законных требований – выдачу Алейникову ссуды на строительство жилья и предоставления справки о наличии юридического адреса. Ей 49 лет, она инвалид третьей группы, и голодовка может закончиться трагически. Она ветеран "Белшины" – более 25 лет отработала на комбинате.

От себя хочу добавить, что "пресс" на Независимый профсоюз значительно усилился с приходом на должность директора по кадрам и социальному развитию товарища Романовского. Этот господин и в бытность свою мэром Бобруйска, мягко говоря, не отличался лояльностью к демократическим организациям (таким, как все тот же Независимый профсоюз). Но тогда его усилия были распылены на весь город. А вот на "Белшине" подобная организация всего одна. Ну просто непочатый край "работы" для таких господ.

**Александр ГРАЧ.**

*P.S. На момент написания этого материала самочувствие Елены Павловны значительно ухудшилось.*

МОЙ ШЛЯХ

# Вандроўка ў «зону»

Мой журналісцкі шлях пачаўся з артыкула "Балючая экскурсія альбо гумныя думкі аб дзіцячых правах", у якім расказвалась пра экскурсію дзевяціклаcнікаў СШ № 13 у калонію непаўналетніх.

"Хвілін праз 20 адчыніліся дзверы аўтозака, і вусаты каржакаваты міліцыянер, назваўшыся намеснікам начальніка калоніі, скамандаваў: "Выбегаць па аднаму! Хто не будзе бегчы – стрымае палкаю!". Бегчы было загадана ў гараж. Меньш спрытным дасталося дубінкай. У гаражы прымусілі сесці на кукішкі, рукі за галаву. Вочы уніз, каб не бачылі канвайраў. Адзін з хлопцаў падняў галаву, і адразу атрымаў дубінкай па спіне. Потым сталі выпускаць праз другія дзверы, пералічваючы тычкам палкі ў спіну: "Бегом!" Каля "каранціна" некалькі чалавек паставілі, як пры вобыску у расцяжку.

Гэтая тэма была падхоплена ўласным карэспандэнтам "Камсамольскай праўды" Анатолем Санаценкам, які на той час таксама працаваў у "Рабочым Бабруйска". На старонках "Камсамолкі" выйшлі яго артыкулы: "Выхаванне злом" і Выхаванне злом – 2". Далей былі публікацыі у "Белорусской деловой газете", "Частном детективе". Справа атрымала міжнародны рэзананс. Аб парадках у бабруйскай ВТК – 2 сваім слухачам і чытачам распавялі "Аўстралійскае радыё", радыё "Свабода", а таксама газета "Вашынгтон-пост".

Не засталіся ўбаку і бабруйкія "чэсныя" журналісты. Быў хуценька арганізаван прыезд у Бабруйск вядомага "левозащитніка" Яўгена Новікава і старшыні грамадзскай арганізацы "Грамадзяне за нацыянальную бяспеку" Марыі Осіпавай. У гарвыканкаме тэрмінова правялі сустрэчу апошніх з кіраўніцтвам калоніі і мясцовымі акуламі пера, на якую чамусьці не паклікалі ні мяне, як маці пакрыўджанага школьніка, ні А. Санаценку , як аўтара. Фрагменты сустрэчы паказалі на БТ, уселяк ухваляючы бабруйскі досвед у выхаванні падлеткаў, раючы ўсім пераймаць яго.

А ў трох бабруйскіх газетах на працягу тыдня былі арганізаваны публікацыі, у якіх ашальмоўвалі Анатоля Санаценку.

Прапануем цытату:

> *Информационные войны.*
> *Место "Боевых" действий – город Бобруйск.*
> *...информационные войны, идущие непрерывно на столичной сцене, постепенно переносятся в глубинку. Честно говоря, складывается впечатление, Бобруйск стал испытательным полигоном по обработке новых тактических приемов ведения информационной войны в провинции. И кое-кто даже в этом видит, как Бобруйск превратился в город бомжей, голодных бандитов, грабителей – тогда будет о чем писать на весь мир".*

Усё лета пракуратура правярала факты. І вось 13 верасня супраць кіраўніцтва калоніі была ўзбуджана крымінальная справа, якая цягнецца да гэтага часу.

А па загаду Генеральнага пракурора Беларусі урокі ў зоне 2000-2001 годах больш не праводзіліся.

**Людміла РОДЗІКАВА.**

ТРЭЦІ СЕКТАР

# Шурпатасці круглага стала

Прыезд супрацоўнікаў недзяржаўнага жаночага інстытута "ЭНВІЛА" з мэтаю правесці круглы стол на тэму "Псіхалогія жаночага лідэрства" мог бы стаць штуршком для новай хвалі жаночага руху ў Бабруйску. Мог бы, але, на жаль, не стаў.

Дакладчыкі – Антаніна Пажыдаева, дэкан факультэта павышэння кваліфікацыі "Энвіла", старэйшы выкладчык Ігар Салаўёў, а таксама псіхолаг Таццяна Валовіч разлічвалі на працу з жанчынамі-лідэркамі грамадскіх і жаночых арганізацый горада.

На жаль, прынімаючы бок (гарадская арганізацыя працоўных жанчын) не паклапаціўся сабраць адпаведную аўдыторыю. Склад удзельнікаў быў не лепшы. Мерапрыемства праходзіла ў адным з маласямейных інтэрнатаў, і шмат людзей было выпадковых: ад ліфцёра і прыбіральшчыцы да купкі хлопцаў-падлеткаў.

Вядома, грамадзянская адукацыя не лішняя для ўсіх. Але творчы і выкладчыцкі патэнцыял спецыялістаў такога ўзроўню як Пажыдаева, Салаўёў, Валовіч трэба выкарыстоўваць належным чынам. Застаецца спадзявацца, што падчас наступных візітаў "Энвілы" ў Бабруйск гарадская арганізацыя працоўных жанчын прыме гэта да ўвагі.

**Людміла РОДЗІКАВА.**

ВАНДРОЎКА

# Літоўцы, Вільня і гісторыя

### Ад'езд

Кожную раніцу з 22 пуці мінскага вакзала адыходзіць цягнік у віленскім накірунку. Адсюль, акрамя яго, кожную гадзіну бягуць электрычкі на Маладзечна, да горада – сатэліта сталіцы.

Невялікі састаў, усяго пяць вагонаў, за чатыры гадзіны звязвае ўсіх жадаючых са сталіцай краіны – суседкі.

### Знаёмства

Віленскі вакзал не ўражвае сваімі архітэктурнымі асаблівасцямі. Тыя ж залы для пасажыраў і білетныя касы. Што непрыемна здзівіла, дык гэта пераходы ад цягнікоў да плошчы. Відавочна, што іх не рамантавалі гадоў пяцьдзесят. Абшарпаныя сцены, вышчарбленую тынкоўку дапаўняюць бессэнсоўныя графіці пачатку дзевяностых. Вандроўка па такім тунэлі пакідае ўспаміны аб разбураных бабруйскіх фортах і бамбасховішчах.

Пад аркай, ля выйсця, дзве дзяўчыны з Нямеччыны скідваюць з валасоў аблупленую фарбу. Можна толькі здагадвацца, які ўспамін застанецца ў іх памяці аб віленскіх прывакзальных пераходах.

### Горад

Стары горад Вільня – гэта мноства вузенькіх маленькіх вулачак, што як ручайкі разбягаюцца ад цэнтральнай плошчы. Забрукаваныя яшчэ сотні год таму, яны да гэтай пары грукацяць пад коламі аўтамабіляў і крокамі пешаходаў. Тут кожны дом на вуліцы займае месца ў гісторыі.

У нашай групы было больш за дзве гадзіны, каб убачыць у сябе ўсе таямніцы вуліц і дамоў старой Вільні. Бессэнсоўна блукаючы недзе ў цэнтры горада, мы натрапілі выпадкова на старадаўні ўніяцкі сабор.

### Гісторыя

На ўвесь вялікі і пустынны двор ля будынка была толькі адна сухенькая бабулька з велізарным венікам у руках. Яна старанна вымятала пыл з лесвіцы і падмурка храма.

Спачатку спакойная, пачуўшы беларускую гутарку, бабулька рэзка ажывілася, падбегла да нас і на вядомай толькі ёй літоўска-руска-польскай мове пачала бойка расказваць. Не змаўкаючы ні на хвіліну, яна зацягнула нас на задні дворык.

Там, над непрыкметнымі дзвярыма, дзесьці ўверсе, узвышаўся пакрыты вільгацю памятны надпіс. Там на літоўскай і польскай мовах павядамлялася, што ў гэтым будынку былі затрыманыя вядомы паэт Адам Міцкевіч разам з сябрамі з клубу філаматаў.

**Зьміцер БЕРДНІКАЎ.**

*(Працяг будзе.)*

МЕДЫЦЫНА

# Рэспубліканскі семінар

У Бабруйску 3-4 траўня 2001 года адбыўся рэспубліканскі семінар, прысвечаны праблемам паталогіі слыху і маўлення. У сустрэчы прынялі ўдзел госці з усіх рэгіёнаў Беларусі і Мінска. Госці добра ацанілі працу бабруйскіх дэфектолагаў і пажадалі далейшых поспехаў у працы.

# Прызначэнне

На мінулым тыдні быў прызначаны новы кіраўнік паліклінікі №5 г.Бабруйска. Ім стаў Аляксандр Уладзіміравіч Борыс, які раней працаваў у прафілакторыі завода РТІ. Прадстаўляў калектыву новага кіраўніка загадчык аддзела аховы здароўя А.Н Гулькоў. Цікава, што ён пачынаў свой кар'ерны шлях менавіта ў гэтай паліклініцы.

**Зьміцер БЕРДНІКАЎ.**

МОЙ ВЫХАДНЫ

*Напоминаем, что вы имеете возможность опубликовать в нашей газете частное объявление АБСОЛЮТНО БЕСПЛАТНО!*

НАШ КАЛЯНДАР

## Юр'е на двары – кароўку ў поле гані

Юраўскае свята ў народным календары адносіцца да вясенняга цыклу абрадаў і звычаяў. Яно прыпадае на 6 мая (у каталікоў – на 23 красавіка).

У гісторыі імя святога Юрыя рэальнае. На рубяжы III-IV стагоддзяў, калі вялася жорсткая барацьба з язычніцтвам за станаўленне хрысціянскай веры ў Еўропе, Юры-Перамаганосец (Георгий-Победоносец), рымскі афіцэр, быў пакараны смерцю за прыхільнасць да хрысціянскіх ідэй і іх прапаганду, за што быў кананізаваны новай рэлігіяй як вялікапакутнік за яе святую справу. Яго імя і подзвігі дзеля хрысціянства сталі сусветнавядомымі.

Як воіну на працягу многіх стагоддзяў Юрыю-вялікапакутніку надавалася значэнне абаронцы ад усіх "нячысцікаў", вызваліцеля палонных і абаронцы войска. На многіх абразах ён намаляваны ў выглядзе воіна з кап'ем, вастрыём якога прыціскае да зямлі лютага змея. Дарэчы, гэты малюнак адлюстраваны на гістарычным гербе Масквы і новым помніку ў Бабруйску. На Беларусі ў гонар святога пабудаваны храмы. У царскай Расіі за асаблівую воінскую доблесць і гераізм быў установлены нагрудны знак – Георгіеўскі крыж.

У сённяшняй народнай міфалогіі святы Юры ўяўляецца стаўленікам Бога сярод людзей, які былцам бы адмыкае прабуджаную пасля зімовага сну зямлю і пускае на яе расу, ад якой усё жывое на зямлі набірае моц і рост.

НАША КУХНЯ

## Майскія травы і галоднага накормяць

Калісьці лічылася, што новы год вясной пачынаецца. Абуджаецца прырода, жыццё як бы абнаўляецца. А з'явілася зеляніна – канец цяжкаму паўгалоднаму часу, калі ў засеках пуста, а на градках яшчэ няма нічога. Пры дапамозе траў можна свае харчаванне рабіць больш разнастайным. Прыведзеныя рэцэпты салатаў паслужаць вам асновай, зыходным пунктам на шляху да стварэння сваіх "фірменных" страў.

***Салата з крапівы.***

Лісце крапівы прамыць халоднай вадой, апарыць кіпенем і астудзіць. Нарэзаць, дабавіць соль, перац, дробна пасечанае яйка, адваранае ўкрутую, смятану (або маянэз), усё добра перамяшаць, упрыгожыць зяленівам і чвэрткамі яйка.

***Салата з дзьмухаўцоў з цыбуляй.***

Лісце дзьмухаўцоў вытрымаць паўгадзіны ў халоднай падсоленай вадзе, затым здрабніць,. дабавіць пятрушку і зялёную цыбулю, заправіць алеем, соллю, воцатам, перцам, перамяшаць і пасыпаць кропам.

***Салата з трыпутніка.***

Лісце трыпутніка і крапівы старанна вымыць, апусціць на 1 хвіліну ў кіпень, даць сцячы вадзе, здрабніць, дадаць цыбулю, хрэн,соль, воцат па смаку. Пасыпаць пакрышаным вараным яйкам, паліць смятанай.

***Салата з лебяды з капустай.***

Лебяду перабраць, старанна памыць, добра пасячы, змяшаць з нарэзанай цыбуляй, квашанай капустай, морквай, пацёртай на тарцы, заправіць соллю, алеем або смятанай (маянэзам).

***Салата са шчаўя і морквы.***

Моркву паскрэбці і нацерці на дробнай тарцы. Шчаўе перабраць, добра прамыць і нарэзаць. Цыбулю, пятрушку дробна пасячы і расцерці з соллю. Прыгатаваць смятанны соўс: у добра ўзбітую смятану пакласці кроп, алей, сок лімона і соль, усё перамяшаць. Заліць агародніну соўсам.

## Калі б не мяса...

Гісторыкі лічаць, што чалавек не стаў бы чалавекам, калі б не мясная ежа. Яна садзейнічае павелічэнню мышачнай масы, аб'ёму мозгу чалавека, а таксама прыняла двух вельмі карысных для гістарычнага развіцця грамадства фактаў: прыручэння жывёл і навыкаў выкарыстання агню для прыгатавання ежы. Таму, падсоўваючы да сябе талерку з біфштэксам, пастаўцеся да яго з павагай і любоўю, як да сапраўднага "рухавіка прагрэсу".

Культура спажывання мяса ў розных краінах склалася свая, абумоўлена гэта кліматам, звычкамі, традыцыямі і, вядома, рэлігіяй. У Старажытным Кітаі каралі смерцю, прымушаючы паядаць у вялікай колькасці цяляціну, якую мы лічым, наадварот, прадуктам дыетычным. У заходнееўрапейскіх краінах заўсёды была вельмі папулярнай каніна, а вось славяне яе амаль ніколі не ўжывалі. У Індыі карова – свяшчэнная жывёла, есці яе мяса забаронена. У мусульман, наадварот, грэх есці свініну. Французы ў XVIII стагоддзі амаль усіх салаўёў перавялі на паштэты з іх язычкоў. У нас выбар вялікі. Напрыклад, мяса труса ў белым соўсе або тушанае з віном – рэч непараўнальная!

## Можа, і так?

Згодна з апошнімі даследваннямі амерыканскіх вучоных, сакрэт доўгажыхарства вельмі просты: трэба есці так мала, каб пастаянна знаходзіцца на мяжы галадання, а ад сэксу ледзь не зусім адмовіцца. Тады, на думку вучоных Нацыянальнага інстытута па праблемах старэння, можна дажыць да 170 гадоў. Калі, вядома ж, раней не памерці ад суму.

**Калонку падрыхтаваў І. МЯСЦОВЫ.**

АНЕКДОТ

Капля никотина убивает лошадь. А капля «Fairy» – жирную лошадь.

Мужик превый раз в жизни прыгнул с парашютом. У него спрашивают:
– Ну, как ты себя чувствовал?
– Как птица! Лечу и гажу, лечу и гажу!

Как известно, женщины и мужчины – это полная противоположность. Следовательно, если все мужики – братья по разуму, то все женщины – сестры по безумию.

Пациент у доктора:
– Можно для профилактики гриппа обливаться холодной водой и бегать в трусах по морозу?
– Лучше уж грипп, чем шизофрения!

– Делми! Что мы приготовим нашим мальчикам на Новый год?
– Папа! А наша мама опять с маргарином разговаривает!

## Бесплатные частные объявления



### Падзякі, віншаванні, абвесткі

Віншуем Надзею і Юру са святам рэгістрацыі шлюбу. Шчасця, дабрабыту, усяго найлепшага.
Сябры.

Віншуем Дашаньку Кабанчук і яе родных з Днём народзінаў. Жадаем вырасці шчырай беларусачкай.
Сябры.

Каханую Анечку з нашым маленькім юбілеем. Зычу здароўя, шчасця, паразумення з бацькамі (астатняе забяспечу я сам!)
Віталь.

Надзею і Сяргея Сілковых віншую з Нараджэннем дачушкі! Зычу нованароджанай усяго найлепшага ў жыцці, а бацькам – жыць і кахаць адно аднаго!
Надзея Кокаш.

Милую Динку Ермалицкую поздравляем с Днём рождения. Желаем тебе счастья, здоровья, любви и всего самого доброго.
Андреевы.

Парень без вредных привычек, без жилищных и транспортных (велосипед) проблем желает познакомиться с серьёзной привлекательной девушкой от 20 до 30 лет.
тел. 4-93-90 (Виталий)

Ирину Викторовну и Ольгу Ивановну благодарю за доверие и доверенность.
Дмитрий Довгаль.



## Купон частного бесплатного объявления

Имя и фамилия (*не для печати*) ____________

Адрес (телефон) (*не для печати*) ____________

Текст объявления: ____________

**Вырезать, заполнить, послать по адресу: 213809, Бобруйск, а/я 25.**